# Самапомач
# Samapomac̆

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс
„SAMAPOMACZ“

Rok VIII. Wilno, Maj 1939 г. № 5 (91).

Год VIII. Вільня, Май 1939 г. № 5 (91).

*Аб чым піша «Самапомач»:*


| | | бач. |
|---|---|---|
| 1. | „Зямля, плуг і каса — гэта наша краса“ | 34 |
| 2. | Каб зялянела сенажаць... | 35 |
| 3. | Ziemlarobstva Francyi | 35 |
| 4. | Больш расьлінаў аляістых | 36 |
| 5. | Гадаваньне канапель | 36 |
| 6. | Супроць гілёў | 37 |
| 7. | Трэба нішчыць майскіх жукоў-хрушчоў! | 38 |
| 8. | Зьмена статуту „Сполэм“ | 39 |
| 9. | „Землямобская самапомач“ | 40 |
| 10. | Успамогі сем'ям пакліканых у войска | 40 |
| 11. | Сакрэт ураджаю (укладка). | |


Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# „ЗЯМЛЯ, ПЛУГ І КАСА — ГЭТА НАША КРАСА“...

Гэтымі славамі заканчывае наш беларускі пясьняр Купала адзін з сваіх вершаў прысьвячаных „Касцом“, а праз іх (касцоў) — і ўсяму земляробству! Сягоньняшняя неспакойная пара не аднаму можа паказацца найменш адпаведнай да „поэтызаваньня“ жыцьця наагул, а тымбольш жыцьця нашай забітай беларускай вёскі. Ёсьць аднак прычыны думаць і йнакш. Можна й трэба дапускаць, што якраз сяньня, калі ўсё на сьвеце так няпэўнае, так дрыжачае й хістлявае, дык сяньня — кажам — тым выразьней зарысоўваюцца непарушныя ўстоі земляробства.

Сяньня кожны сабе кажа: „хай станецца, што хоча“: — „зямля была, ёсьць і будзе нязьменнай падставай людзкага існаваньня“. Але, так... Дадаць да гэтага толькі трэба, што ў гэтым ёсьць ня толькі сіла зямлі, але й прычына розных праяваў прагнасьці на яе, якія часта даводзяць да міжнародных спрэчак і войнаў. Ня кажуць людзі гэтага проста й выразна. Але калі „паскрабаць“ крыху словы й заявы розных гістарычных асобаў, дык адразу й вылазіць шыла з мяшка: адзін хоча „прастору жыцьця“ (ведама: для сябе, а не для другога), іншы — „гістарычных правоў“, яшчэ іншы — „абароны ад абкружэньня“ і г. д. Стараюцца гэтак людзі прад сучасным сьветам, а праз гісторыю й прад патомствам апраўдаць свае намеры й пастунпкі, якія бяз гэтай дэкарацыі нікога хіба ня прыцягвалі-б, а тымбольш не заахвочвалі-б самахоць запрагацца ў чужую каламажку.

Але гэта толькі „між іншым“, каб выразьней уявіць сабе той сапраўдны скарб, якім уладае земляроб, скарб у форме з я м л і. А робім гэта на тое, каб перасьцерагчы пераважна маладое й падрастаючае пакаленьне перад лёгкадумным пакіданьнем земляробскіх гаспадарак і ўцяканьнем „у сьвет“ за „лёгкім хлебам“. Як ня дзіўна, а нахіл да гэтага ёсьць ня толькі ў тых, каго сапраўды выганяе ўпрочкі жыцьцё (беззямельле), — але такжа ў тых, каму праца на зямлі, у земляробстве проста чамусьці выдаецца быць „цяжкай“.

Вот-жа, праца ўсюды ёсьць працай. І калі зямля ня родзіць бяз укладу працы, дык гэта й натуральнае й зразумелае. З другога боку праўда аднак і тое, што той чалавек, які прыкладаецца да працы ў земляробстве з такім п р ы г а т а в а н ь н е м і такой п і л ь н а с ь ц ю, якая вымагаецца напр. ад гэтак званага работніка кваліфікаванага (не чорнарабочага), гэткі — паўтараем — чалавек ніколі на неаплатнасьць свае працы ў земляробстве наракаць ня будзе. А не рахуем тут яшчэ такіх трудна аблічальных выгодаў земляробскае працы, як гыгіенічнасьць (праца на вольным чыстым паветры), як незалежнасьць, як самапэўнасьць насягоньня й назаўтра.

Усё гэта рэчы занадта важныя, каб можна было іх абыйсьці моўчкі й без заўважэньня. Таму з усей сілай і ўсімі спосабамі трэба перасьцерагчы тых перад усім спадкаемцаў земляробскіх гаспадарак, каторыя, не пазнаўшы варункаў удачы працы на сваім варштаце, хацелі-б яго пакінуць. Паўтараем: праца ўсюды ёсьць працай, але ў земляробстве яна заўсяды аплаціцца таму, хто да яе так сумленна прыгатаўляецца й адносіцца, як гэтага вымагае праца ў фабрыках ці дзе ў іншым больш паплатным месцы

# Каб зелянела сенажаць...

Аб сенажацях, ці як мясцамі ў нас кажуць *пожнях*, а йшчэ йнакш — *лугох*, беларускі земляроб наагул бяручы вельмі кепска разьбіраецца. Наагул-жа ў нас пануе, можна сказаць, перакананьне, што сенажаць—гэта нешта горшае, менш цэннае, чым напрыклад звычайная аромiна. Гэтым так-жа можна вытлумачыць і такое зьявішча, як блізу сыстэматычнае зьменшываньне абшару сенажацяў, каб іхнім коштам павялічыць абшар поля аромага. Нічога больш штодзеннага, як абразок стараннага гаспадара, які прыворывае сабе якую барaзёнку то ад шырокай мяжы, то ад сумежнай дарогі, а так-жа й ад сенажаці. Што такім прыворываньнем вузее мяжа—добра! — усяляк можа быць з прыворываньнем сьцежак і дарог, але з прыворываньнем сенажацяў—дык найчасьцей выходзіць найгорш.

Ніхто сабе ня вораг. І селянін наш, прыворываючы сенажаць, перакананы, што гэтым ён лепш выкарыстае сваю вузкую ніўку. А ці гэта так?

Вот у гэтым пытаньні й уся бяда. Яшчэ да нядаўна людзі думалі, што сапраўды кожную зямлю, акрамя хіба самых толькі імшарынаў і жвіроў, можна выкарыстаць так, як гэта чалавеку падабаецца,—знача,можна павысякаць найхарашэйшы лес, пасекі павыкорчаваць, засеяць збожам, ці засадзіць бульбай і буракамі, а пасьля... можа зрабіць з гэтага поля пасьбішча, а можа нават і — сенажаць. І наадварот.

З часам аднак пагляд пачаў мяняцца. А сягоньня „і сьляпы пабача," што часта выйшлі з таго „поля," якое атрымалася спад высечанага лесу, сухія пуставеі, якія ня толькі самі ніякай карысьці не даюць, але шкодзяць і сумежнаму полю. Тое самае, што дзеецца з полем спад лесу, надта часта можна бачыць з полем і спад сенажаці, з тэй хіба толькі розьніцай, што лес (хвойкавы) добра рос на глебе сушэйшай, а сенажаць — на сырэйшай.

Навука згэтуль выплывае такая: кожная глеба ўжо па натуры сваей празначана да тэй а ня іншай ролі (культуры). Сенажатная глеба, калі не зьмяняць ейнай натуры (напр. не асушываць), можа быць толькі сенажацяй, лясная можа быць толькі пад лесам, таксама як аромiна заўсяды найлепш дасца выкарыстаць толькі як аромiна.

Гэта адна рэч, якая роўным чынам адносіцца да поля аромага, так да глебы леснай, як і да сенажаці. Але сенажаць мае акрамя таго й іншае яшчэ значэньне: яна найлепш пазваляе разьвіць жывёлагадоўлю. Наколькі гэта важна — зразумелі напр. Немцы, якія хоць вельмі ўмела гаспадарaць на палёх аромых, то аднак апошнім часам з асаблівым націскам прапагуюць гаспадарку на сенажацях. Каб лепш і грунтаўней абзнаёміцца з такой гаспадар-

# Ziemlarobstva Francyi

Až dziva časam biare, što niekatoryja staronki, bahatyja j kulturnyja, da apošnich blizu hadoŭ tak mała źviartali ŭvahi na svajo ziemlarobstva. Mścicca heta na ich pa siańniašni dzień. Bačym heta na prykładzie Francyi. — red.

Siańniašniaja Francyja zajmaje prastor 551.000 kv. klm. (biez kalonijaŭ), na jakim žyvie blizu 42 miljony nasielnictva; z hetaha liku na žycharoŭ miesta vypadaje 51,2 prac., a na žycharoŭ vioski tolki 48,4 prac. Na 1 kv. klm. u Francyi žyvie siarednie 78 čałaviek. Nia majem pad rukoj dadzienych ab tym, kolki z hetych „žycharoŭ vioski" zaniata biezpasiaredna ŭ ziemlarobstvie. Viedajem tolki, što ŭ ziemlarobstvie pracujuć 5.2 miljonaŭ rabotnikaŭ padzionnych,1.5 milj. rabotnikaŭ stałych i 930.000 rabotnikaŭ sezonnych.

Pad ziemlarobskaj abrobkaj zaniata ŭsiaho ŭ Francyi 36.204.000 ha hruntu, jaki padzieleny pamiž 3.966.120 haspadarak.

Vialičynia haspadarak roznaja. Statystyčnyja padličeńni vykazvajuć hetkija katehoryi haspadarak (u pracentach): haspadarki da 10 ha zajmajuć 22.2 prac. usiaho abšaru (2.878.600 haspadarak), haspadarki ad 10 da 20 ha zajmajuć 20.6 prac. usiaho abšaru (593.150 haspadarak), haspadarki ad 21 da 50 ha zajmajuć 28.1 prac. ahulnaha abšaru (383.370 haspadarak) i haspadarki z abšaram bolš jak 50 ha zajmajuć 29.1 prac. usiaho abšaru (114.000 haspadarak). Adnosna vysokaja ličba haspadarak z abšaram da 10 ha tłumačycca

# Больш расьлінаў аляістых

У зьвязку з агульным палажэньнем, вельмі цэнным прадуктам земляробства становяцца расьліны аляістыя, такія, як лён, канаплі і інш. Таму Міністэрства Земляробства зьвяртаецца з заклікам, каб сёлета асабліва павялічыць плошчу засеваў гэтых расьлін. — Фаховая прэса, падаючы аб гэтым вестку, прыпамінае, колькі йшчэ трэба й можна Польшчы даганяць, каб зраўняць свае ўраджаі хоць-бы з ураджаямі такой Нямеччыны. І так напр., калі Нямеччына ў параўнаньні з Польшчай абсейвае жытам простор большы на 1 мільён га, дык зьбірае ўраджай большы аж на 10 мільёнаў квінталяў (квінталь мае 100 клг.). Ячменю Нямеччына засявае простор большы толькі на 30 прац., а зьбірае ўраджай большы на 250 прац. Аўсом Немцы абсяваюць простор большы на 200 тыс. га, а зьбіраюць ураджай больш ы ў два разы. — Паказвае гэта, што знача добра зямлю абрабіць, добра угнаіць і добрай сяўбой засеяць.

[redacted]

кай, Немцы штогод арганізуюць гэтак званы „Зялёны Тыдзень.“

Беларускім земляробам, ня з іхнай віны, ад гэтага йшчэ далёка. Кожны аднак можа й павінен глядзець на сваю сенажаць, як на роўнацэнную складовую часьць свае грунтавое маемасьці й паводле гэтага паступаць.

*С. Я—віч.*

# Гадаваньне канапель

Каноплі гэта аднагодняя прамыслова-тэхнічная расьліна, так як лён, толькі вымагае глыбейшай глебы, стараннага дагляду й больш цяпла. Гадуюцца як дзеля моцнага валакна, ужыванага на розныя тканіны й вяроўкі, так і дзеля сяменьня, у якім бывае шмат цэннага туку (клустасьці). Важнай практычна асаблівасьцю канапель ёсьць тое, што яны зьяўляюцца расьлінай двудомай: г. зн. адны калівы маюць толькі цьвет мужчынскі—гэта так званыя пласконьні, а другія маюць толькі цьвет жаноцкі — уласьцівыя каноплі ці мацеркі. Аб практычным застасаваньні гэтай розьніцы будзе мова ніжэй.

Як ужо было сказана, каноплі любяць глебу глыбокую, зносяць сухасьць, абы толькі глеба была пульхная й добра ўгноеная. Таму гадуюцца ў нас каноплі пераважна толькі ў агародах, дзе зямлю можна яшчэ звосені перакапаць на дзьве рыдлёўкі. Калі-ж гадаваць каноплі на шырэйшую меру (у полі), дык акрамя забесьпячэньня ад зімна, трэба памятаць і аб глыбокай ворцы з паглыбяльнікам, якая праводзіцца йшчэ ўвосені. Таксама ўвосені трэба зямлю пад каноплі й угнаіць добра перапрэлым гноем, рахуючы ў сярэднім 3 аднатонныя вазы гною на 100 кв. м. (10×10) поля ці агароду. На гэты-ж простор 100 кв. мэтраў высейваецца каля 12 кілёграмаў сяменьня,

---

tym, što siudy zaličany haspadarki vinahradnickija, jakija zvyčajna nie pieravyžšajuć navat 1 ha i mima taho dajuć svajmu haspadaru nie najhoršaje ŭtrymańnie.

Z ahulnaha liku blizu 4 milj. haspadarak u Francyi, tolki 60 prac. heta ŭłasnaść samych haspadaroŭ, 30 prac. haspadarak ?znachodzicca ŭ arendzie i 10 prac. — heta pałavičniki.

Što hadujuć francuskija ziemlaroby?

Naĭpierad i hałoŭnym čynam pšanicu, uradžaj jakoj u siarednim za apošniaje dziesiacihodździe vynosiŭ 88 milj. metryčnych centnaraŭ*) u hod. U pradukavańni pšanicy Francyja zajmaje čaćviertaje miesca pamiž usimi krajami švietu: na pieršym miescy stajać (najbolš pradukujuć) Złučanyja Štaty Paŭnočnaje Ameryki, na druhim — Kanada, na trecim Indyja, a na čaćviertym — **Francyja**. U paraŭnańni z krajami Eŭropy na adnaho čałavieka Francyja pradukuje 210 klh. pšanicy, Italja—170 klh., Hišpanija (prad vajnoj) — 160 klh., Niamieččyna — 75 klh.

**Bulby** pradukuje Francyja ŭ hod 165 milj. q (Polšč — 310, Niamieččyna 465 milj. q), abo na hałavu 380 klh. (u Polščy 940 klh, u Niamieččynie 690 klh).

**Burakoŭ cukrovych** ju Francyi źbirajuć u hod 75 milj. q. — Francyju vypieradziła ŭ hetym tolki Niamieččyna, źbirajučy ŭ hod 95 milj. ha. Dabrabyt Francyi ŭ vialikaj miery zaležyć adnak ad hadavańnia **vinahradu**, z jakoha ŭ hod

*) Metryčny centnar abo kvintal koratka aznačajecca jak q i maje 100 klh.

ваньні*) атрымоўваем лічбу 134 з палавінай клг. Гэтулькі трэба высеяць аўса, якога гаспадарская прыдатнасьць 88.1 прац. А калі-б гэта прыдатнасьць выносіла ня 88.1 а толькі 79.2 (79 і 2 дзесятыя) прац. і каб гусьціня засеву не зьмянілася, дык колькасьць сяўбовага насеньня трэба выраховаць гэтак: насеньня гэткага трэба даць у гэтулькі разоў больш, у колькі разоў вышэйшы працэнт між гаспадарскай прыдатнасьцю лепшага й горшага аўса**). Знача ў нашым выпадку:

$$(134.5\times88.1):79.2, \text{ або } \frac{134.5\times88.1}{79.2} = \underline{\underline{144.5 \text{ клг. на 1 га.}}}$$

Знача, калі працэнт гаспадарскай прыдатнасьці насеньня малы, дык трэба высейваць адпаведна больш гэтага насеньня, чым гэта звычайна падаецца.



*) Разважаем так: калі-б насеньне мела 100 прац. гаспадарскай прыдатнасьці, дык трэба было-б высеяць 118.45 клг. (118 клг. і 45 дэка), а калі-б гэта здатнасьць была толькі ў 1 прац., дык такога насеньня трэба было-б у 100 разоў больш (118.45 клг.×100). Гэта пры прыдатнасьці ў 1 прац. Але наша насеньне мае 88.1 прац. прыдатнасьці, знача яго трэба ў 88.1 разоў менш, ці йнакш (118.45×100) : 88.1, або $\frac{118.45\times100}{88.1}$ = 134.4...134.5 клг. — *А. К.*

**) Або насеньня з меншай гаспадарскай прыдатнасьцю трэба даць у гэтулькі разоў больш, у колькі разоў ягоная прыдатнасьць ёсьць меншай. — А. К.



глядаюцца да тых зярнят, што ўсплылі, ці няма ў іх дзірачак, а ў гэтых дзірачках — жучка-ваўчка.

У гандлі насеньнем ёсьць прынятае правіла, што насеньне на пасеў можа быць занячышчана няшкоднымі дамешкамі, аднак гэтых дамешкаў можа быць толькі вельмі мала.

Гэтак у 100 клг. насеньня мусіць быць зусім чыстага зерня, без якіх-небудзь дамешак, прынамсі (падаём у працэнтах): Жыта 95 прац. (знача на 100 клг. мусіць быць найменш 95 клг. зусім чыстага зярна), пшаніца — 96, ячмень — 96, авёс— 95, грачыха — 90, проса — 90, гарох — 92, кукуруза — 95, лубін — 90, бобік — 90, лён — 90, канаплі — 92, буракі — 95, рэпак — 92, капуста — 96, морхва — 80, сэрадэля — 85, агуркі — 97, гарбузы — 97, рэдзька — 96, фасоля (шальбабон) — 95, салата — 97, цыбуля — 97, гарчыца — 95, чырвоная канюшына — 90, белая канюшына — 80, цімафейка — 86, райграс — 75, віка летняя — 96, віка азімая — 80, соя — 99.

Як вялікае значэньне мае працэнт чысьціні сяўбовага насеньня, выходзіць хоць-бы з наступных аблічэньняў. Калі ў лёне будзе толькі 5 прац. насеньня пустазельля, дык пры высейваньні гэткага насеньня, на 1 квадратовы мэтр высейваецца адначасна 34 зярняткі пустазельля; калі ў чырвонай канюшыне было напр. 6.4 прац. насеньня пустазельля, дык на 1 кв. мэтр высейваецца аж 60 зярнят рознага пустазельля.

**5. Полыск.** Здаровае насеньне блізу кожнае бывае бліскучым, затое насеньне старое, стухлае ці пашкоджанае набывае адценку матавага. Полыск ня ёсьць пастаяннай (сталай, нязьменнай) азнакай кожнага насеньня, таму звычайна ў практыцы мала ўжываецца ацэнка якасьці насеньня на падставе полыску. Часта так-жа полыск рознымі спосабамі фальшуюць.

**6. Колер.** Колер насеньня бывае розны, асабліва ў агародніны. Напрыклад насеньне цыбулі ёсьць чорнае, агуркоў белае, жоўтае або залацістае, кукурузы — усякага колеру і адценкаў. Колер насеньня можа зьмяніцца, калі напр. насеньне бы-

ло сабрана йшчэ зялёным, калі яно вельмі старое або калі яго перахоўвалі ў неадпаведным месцы.

Здаровае насеньне мае сьвежы, крыху лыскучы выгляд. Матовасьць насеньня, або плямаватасьць, бледны ці цямнейшы колер кончыкаў зярняці ў збожы сьведчаць аб тым, што яно старое, або што яно было замочана, або ў ім утоена нейкая хвароба. Зялёны колер, асабліва ў збожы, даказвае, што яно было сабрана ў ня зусім дасьпелым стане і тымсамым няпрыдатным ёсьць да сяўбы. Чырванавы колер даказвае, што авёс сапрэў (сагрэўся).

Здаровае насеньне лёну ёсьць яснае, або цёмнае, затое сапсаванае дастае колер жаўтавы, а недасьпелае — зелянкавы. Здаровае насеньне канапель ёсьць шэрае, або шэра-рудое, сапсаванае дастае колер цёмна-шэры або ясна-серабрысты, а недасьпелае — зелянкава-шэры.

Насеньне часта фальшуюць, каб зрабіць яго на выгляд здаровым і сьвежым. А фальшуюць найчасьцей алейнымі прэпаратамі. Гэткае фальшаванае насеньне можна пазнаць, калі ўзяць крышку яго на чыстую сушку (бібулу), закруціць і расьціснуць у жмені. Тады, калі яно было фальшаванае, дык на бібулцы астануцца клустыя плямы. Можна насыпаць у бутэльку крышку насеньня, даліць вады і баўтаць. Калі зярнё было сфальшаванае, дык на паверхні вады паявяцца каплі алею («сьвечкі»). Калі насеньне было абкурана серкаю, дык пазнаецца гэта пры помачы куска сіняй лякмусавай паперы (дастаць можна ў аптэчным складзе): у намочанае насеньне ўкладаецца такая паперка і калі насеньне было абкурана серкаю, дык паперка гэта пачырванее. Часам гэткае насеньне фальшаванае дымам серкі можна пазнаць самым толькі нюхам.

7. Запах. Запах мае таксама вялікае значэньне пры ацэнцы насеньня. Здаровае, сьвежае насеньне мае ўласьцівы сабе запах, затое насеньне зьляжанае, старое губляе свой запах, напрыклад на-



$$Г = \frac{94 \times 87}{100}, \quad \text{ці йнакш} = (94 \times 87):100 = 8178:100 = 81.78$$

па заакругленьні **81.8 прац.**

(ня цэлых 82 працэнты). Гэта й будзе працэнт гаспадарскай прыдатнасьці насеньня.

Можа здарыцца напрыклад і гэткі выпадак. Гаспадар купіў насеньне на пасеў у двух розных мясцох. Пры пробе адно збожа паказвае 90 прац. чысьціні й 80 прац. здатнасьці прарастаньня, гэта знача дасьць 72 прац. гаспадарскай прыдатнасьці. Другое насеньне выказвае 80 прац. чысьціні й 90 прац. здатнасьці прарастаньня. *Пры падрахоўваньні атрымаем тую самую гаспадарскую прыдатнасьць,* гэта знача 72 працэнты. Каторае з гэтых двух насеньняў лепшае на сяўбу, хоць іхняя гаспадарская прыдатнасьць аднолькавая? Разумеецца, што лепшае на пасеў насеньне ч ы с ь ц е й ш а е. Бо хоць гэта другое насеньне й мае меншы працэнт здатнасьці прарастаньня (усходлівасьці), дык гэта ня шкодзіць; абрахаваўшы гэту няўсходлівасьць гаспадар высее насеньня адпаведна больш (гусьцей) і будзе ўсё ўпарадку. Затое шмат горш, калі высеецца насеньне мала чыстае, бо ў гэтай нячысьціні могуць быць зярняты вельмі ўпартага, а нават і атрутнага пустазельля.

Гаспадарская прыдатнасьць дае гаспадару абраз сапраўднай вартасьці насеньня на сяўбу. На падставе вырахаванага працэнту й агульна прынятай нормы высеву на гэктар, вырахоўваем, колькі сапраўды трэба высеяць таго ці іншага насеньня, каб яно аднолькава густой руньню пакрыла ўсю ральлю. Напрыклад: Гаспадарская прыдатнасьць аўса 88.1 прац., а норма высеву яго на 1 га (пры 100 прац. гаспадарскай прыдатнасьці) 118.45 клг. Па абраха-

## V. Як аблічыць гаспадарскую прыдатнасьць насеньня

Гаспадарская прыдатнасьць насеньня паказвае гаспадару, якую вартасьць мае сяўбовае насеньне й памагае аблічыць колькасьць высеву. Пробу на гаспадарскую прыдатнасьць насеньня робім паводле пробы аб сіле й здатнасьці прарастаньня й пробы на чыстасьць. Калі проба выказала напр., што авёс чысты на 90 прац., а сілу прарастаньня мае 70 прац., дык гэта знача, што на 100 клг. насеньня 10 клг.—гэта бязвартаснае сьмяцьцё, а самых зярнят ёсьць толькі 90 клг. Калі цяпер прыняць пад увагу, што й з гэтых 90 клг. толькі 70 прац. здольны прарасьці, дык праканаемся, што гаспадарская прыдатнасьць гэтага насеньня будзе йшчэ меншая, бо толькі **63 клг.** Каб аблічыць гаспадарскую прыдатнасьць якога-небудзь насеньня, трэба працэнт чысьціні гэтага насеньня памножыць на працэнт ягонай здатнасьці сілы прарастаньня й атрыманую лічбу падзяліць праз 100, паводле гэткай формулы:

$$Г = (Ч \times Пр) : 100,$$

або йнакш:

$$Г = \frac{Ч \times Пр,}{100}$$ пры чым

Г—гэта шуканая гаспадарская прыдатнасьць дадзенага насеньня (у працэнтах),

Ч — ягоная чысьціня і

Пр — ягоная здатнасьць прарастаньня.

Напр. маем пшаніцу чыстую на 94 прац., а сіла прарастаньня яе 87 прац.; гаспадарскую прыдатнасьць гэтага насеньня вырахоўваем гэтак:



сеньне кміну, пятрушкі і г. д. Пры няўмелым перахоўваньні рознага роду насеньня настае да некаторай меры расклад зложаных у ім запасаў і дзеля гэтага такое насеньне становіцца мала адпорным на ўплыў розных плесьняў. Ад іх дастае насеньне душны, тухлы запах. Напр. здаровае насеньне буракоў прыемна пахне, быццам сенам, затое сапсутае — заносіць плесьняй.

Гнільны, плесьнівы, стухлы, ці кіслы запах паказвае, што насеньне церпіць ад нейкага грыбка. Пшаніца нападзеная галаўнёй мае запах гнілых яец або селядцоў. Мядовы запах зярняці паказвае, што ў ім загнезьдзіўся мучны клешч.

Стухлае зярнё пазнаецца, калі ў халодным месцы сьціснуць яго ў кулаку на якую поўмінуту. Разгарнуўшы кулак, чуецца нюхам сваеродны стухлы запах.

Запах можна таксама пазнаць, калі насеньне сагрэецца ў жмені, або калі яго размалоць у млынку да кавы, або расьцёрці змочанае насеньне ў парцэлянавай місцы.

Пагана пахучае насеньне часта фальшуюць, каб надаць яму прыямнейшага запаху. Зерне збожа сабранага сырым абкурываюць серкай. Сапсаванае насеньне перасыпаюць (шуфлююць), мяшаючы з рознымі алеямі, напр. аніжавым, рэпакавым і г. д. Такое насеньне можна пазнаць па ягоным ненатуральным запаху.

**8. Смак.** Таксама па смаку можна пазнаць вартасьць насеньня. Сапсаванае насеньне дастае смак гаркаваты, які дзярэ ў горле. Ягоны смак кваскаваты, горкі або салодкі. Асабліва ў збожы такі смак даказвае, што такое насеньне сапсавана. Пры пробе насеньня на смак ня можна перакусываць яго зубамі, бо можна цяжка затруцца грыбкамі, якія асядаюць на зярняці збожа і на ўсякім насеньні. Даволі папрабаваць ягоны смак, датыкаючыся яго толькі канцом языка.

**9. Вогкасьць насеньня** Трэба йшчэ праверыць, ці насеньне даволі сухое, ці часам ад вогкасьці (сырасьці) не пабольшыла свайго абыйма. Кожнае насеньне, хоць на выгляд яно і сухое, у сапраўднасьці мае нейкі працэнт натуральнай вогкасьці (вады), якая стала астаецца ў насеньні. Колькасьць гэтай вогкасьці розная ў кожнага роду расьлінаў.

Ступень сухасьці залежа ад пагоды ў часе зьбіраньня ўраджаю, далей — ад спосабу перахоўваньня насеньня, ад яго даўнасьці (веку) і ад вогкасьці паветра. Сьвежа сабранае насеньне, таксама недасьпелае, больш мае ў сабе сырасьці ад насеньня старога й дасьпелага.

Сухасьць насеньня пазнаём, сьціскаючы яго ў жмені. Калі яно сухое, дык лёгка высьлізгаецца спад пальцаў і, падаючы на цьвёрды прадмет, выдае ясны аднастайны шэлест, які паходзіць ад сьціраньня аб сябе зярнят. Наадварот, недаразьвітае, сапсутае, лішне сырое, у жмені сьціскаецца, памалу высуваецца спаміж пальцаў і падаючы выдае глухі гук. Можна таксама вогкасьць насеньня азначыць пры помачы нажа. Калі такое зерне даецца разрэзаць з пэўнай труднасьцю, а пры разрэзваньню частачкі зерняці адскаківаюць, дык такое зерне сухое (найбольш 14 прац. вады). Калі нож разрэзвае зерне лёгка, дык яно мае 17 прац. вады, а калі нож пры разрэзваньні зерняці расьціскае яго, дык яно вельмі сырое і мае ў сабе больш як 17 прац. вады.

Нармальна сухое насеньне павінна мець гэткі працэнт вогкасьці (сырасьці, вады):

Пшаніца — 14, ячмень—13.8, жыта — 14, авёс — 13.5, грачыха — 13.7, проса — 13.7, гарох — 10 прац., фасоля—10 прац.

Каб дакладна азначыць працэнт вогкасьці, трэба высушываць насеньне ў адумыснай для гэтай мэты печы, у г. зв. шафе Трынклера. Адважваецца 1 да 2 дэка насеньня і сушыцца праз 5 гадзін пры цяпліні 110°Ц. Падчас сушэньня пробка важыцца колькі разоў і вага гэта дакладна запісваецца. Лічбовая розьніца, якая выйдзе паміж вагай нявысушанага і вават высушанага насеньня, пры апошняй вазе пакажа нам, колькі ў ім было сы-



расьліна апыляецца сама (самаапыленьне*), напр. гарох, фасоля (шальбабон), пшаніца. Матачная расьліна мае рашаючы ўплыў і тады, калі гэта расьліна размнажаецца цыбулькамі, вочкамі, жыўчыкамі (зрэзамі).

Калі-ж расьліна ёсьць чужапыльнай (апыляецца пылам іншай расьліны), напр. жыта, буракі, кукуруза, канюшына, агароднiна, кветкі, — дык якасьць зярняці залежная будзе ад абоіх расьлінаў, бацькавай і **матчынай**, асабліва што датыча здароўя й сартовых прыметаў. На гэту асаблівасьць звычайна не зьвяртаюць патрэбнай увагі й таму часта розныя сарты расьліны таго самага роду засяваюцца лішне блізка каля сябе. Тады пылок пераносіцца ветрам, або мухамі на матачную расьліну на суседнім загоне й гэтак сарты крыжуюцца й выроджуюцца.



*) У прыродзе ёсьць расьліны, цьвет якіх пертвараецца ў завязь па апыленьні пылком цьвету з іншых расьлінаў, або пылком собскім. У гэтым апошнім выпадку расьліна мае пылок мужчынскі й жаноцкі адначасна.

## IV. Ад чаго залежа добрая якасьць насеньня

Гаспадар мусіць знаць ня толькі якое насеньне трэба засяваць, але таксама, *што мае ўплыў* на добрую якасьць насеньня. Бо гаспадар-жа сам ёсьць галоўным прадуцэнтам сяўбовага насеньня, а толькі невялікую колькасьць прыкуплівае.

На добрую якасьць насеньня мае ўплыў:

1. *Становішча,* знача *грунту.* Якія прыметы мае ральля, а якія сподні пласт. Які іх склад і колькі ў іх спажыўных сучастак, як высака стаіць сподняя вада (ейны рух) і г. п.

2. *Кліматычныя варункі,* колькасьць атмосфэрычных вопадзяў (дождж) і пары іхняга ападаньня. Якія варункі цеплавыя, колькі падае на зямлю сьвятла й якія дзьмуць вятры.

3. *Апека гаспадара* — угнаеньне, абробка, глыбіня глебы, густасьць высеву, дагляд засеваў (паліваньне, пяленьне, спульхніваньне) і г. п.

Усё гэта мае уплыў на разьвіцьцё расьліны, якая празначана да гадаваньня й выдаваньня сяўбовага зярняці. Толькі харошая, здаровая, добра разьвітая расьліна можа вытварыць насеньне добрай якасьці. Але й аднолькава вялікае насеньне з розных расьлінаў аднаго роду не заўсяды бывае аднолькавай якасьці. Заўсяды лепшае й выдатнейшае насеньне бывае з здаровай, добра разьвітай расьліны.

Прыметы матачнай расьліны*) рашаюць аб вартасьці насеньня толькі ў тым выпадку, калі гэта

*) Матачнаю расьлінаю гадавальнікі насенных гаспадарак называюць тыя найлепшыя расьліны, з якіх размнажаюць пасьля насеньне на сяўбу.



расьці. Гэткія пробы можна рабіць толькі ў ляборатарыях вучоных людзей. Пры звычайнай ацэнцы насеньня на сяўбу пробы такія практычнага значэньня ня маюць).

Сухое й здаровае зярнё, з нармальнай вогкасьцю 12—15 прац., пры датыканьні мусіць быць цьвёрдым, гладкім, на канцох вострым. Пры паціраньні самога аб сябе выдае ясны шорах. Калі зярнё мае 20 прац. вогкасьці, дык пры датыканьні яно бывае халодным, тупым а пры разрэзваньні — тугім. Яшчэ больш сырое зерне ёсьць лёгка набрыняўшае (напучнелае), цеставата мяккае. Пры сьціскаваньні ў жмені—паасобныя зярняты прыліпаюць да скуры. Калі зярнё было адумысна намочанае дзеля павялічэньня вагі, дык яно па высушэньні корчыцца, моршчыцца й мае малую абыймовую вагу.

**10. Здатнасьць і сіла прарастаньня.** Высейваючы насеньне,гаспадар мусіць ведаць, ці насеньне гэта здатнае й наколькі. Добрая якасьць насеньня на пасеў залежа ад ягонай здатнасьці й энэргіі прарастаньня. Яшчэ перад пасевам можа гаспадар даведацца, як будзе прарастаць і расьці сяўбовае зерне. Тады можа ўстанавіць колькасьць насеньня на пасеў. Дзеля гэтага трэба рабіць пробы на здатнасьць і энэргію прарастаньня (ўсходлівасьці) ды на сілу й энэргію росту. Добрае насеньне мусіць мець высокую жывучасьць, знача падставаю сапраўднай прадуктыўнасьці розных гаспадарскіх расьлінаў ёсьць высокі працэнт прарастаньня. Насеньне, якое мае малую жывучасьць, даказвае, што было сабрана падчас непагадзі, або што яго неадпаведна перахоўвалі, або што яно перастарэлае, пашкоджанае рознымі шкоднікамі ці хваробамі, або што было праз меру вогкае.

*Здатнасьць прарастаньня* азначаецца лічбай усіх прарослых зярнятак з агульнай колькасьці ўзятай да пробы.

*Энэргію прарастаньня* (хуткасьць, скорасьць) паказвае нам лічба прарослых зернятак пры канцы

азначанага каротка-срочнага тэрміну, напрыклад трох дзён, з агульнага ліку насенных зернятак узятых на пробу.

*Сілу й энэргію росту* азначаюць тымсамым спосабам, як і здатнасьць і энэргію прарастаньня, толькі што насеньне знаходзіцца ў іншым, менш прыдатным асяродзьдзі, напрыклад у цяжкім грунце. Гэта паказвае, да якой меры расьлінка здольна перамагаць розныя жыцьцёвыя нявыгады.

Дзеля правядзеньня пробы на здатнасьць і сілу прарастаньня, трэба ўзяць дзьве плыткія місачкі (сподкі, талеркі). На дно іх насыпаецца крыха чыстага, найлепш вымытага й высушанага пяску з ракі. Гэту пробу можна так-жа прарабіць на фільтровай паперы (дастаць у аптэчным складзе). Паперу гэту складаюць на сябе колькі разоў і кладуць на куску шкла, які апіраецца на краёх талеркі (сподка) з вадою. Канцы паперы дастаюць ваду й папера гэтак пастаянна мерна-вогкая (мокрая).

Па прыгатаваньні талерак адлічаюць два разы па сто зярнятак аднаго гатунку расьліны (не перабіраных!) і ўпіхаюць зусім у пясок або кладуць на паперу. Пасьля пясок мерна паліваецца вадой. У кожную талерку даецца 10 зернятак у квадрат, знача па 10 зернятак у 10-цёх радках. Пробныя талеркі трэба накрыць зьверху другімі талеркамі, але так, каб туды як найменш даходзіла паветра й сьвятло Таксама ўкрываецца насеньне фільтровай паперай. Талеркі ставяцца ў цёплым месцы, але не на печы, ані на акне, дзе бывае зьменная тэмпэратура. Падчас прарастаньня трэба ўважаць, каб пясок заўсяды быў мерна вогкі (сыры, але ня мокры!). Для прарастаньня патрэбна тэмпэратура 15—20°Ц (звычайная хатняя тэмпэратура).

У некаторых расьлін ужо па трох днях зьяўляюцца першыя расткі. Найраней прарослыя зерняткі— гэта насеньне найздаравейшае. Штодзень асьцярожна выбіраюцца прарослыя зерняткі, запісваецца



| | Сярэдне | | Найбольш | | Найменш |
|---|---|---|---|---|---|
| Пшаніца | 37 | — | 46 | — | 15 |
| Жыта | 23 | — | 48 | — | 13 |
| Авёс | 28 | — | 54 | — | 15 |
| Ячмень | 40 | — | 49 | — | 28 |
| Проса | 5 | — | 5.75 | — | 4.5 |
| Грачыха | 22 | — | 26 | — | 20 |
| Гарох | 250 | — | 500 | — | 100 |
| Фасоля | 585 | — | 926 | — | 367 |
| Боб | 1000 | — | 2000 | — | 800 |
| Сачыўка | 20 | — | 23 | — | 17 |
| Кукуруза | — | — | 380 | — | 143 |
| Буракі | — | — | 22 | — | 13 |
| Гарчыца | — | — | 700 | — | 640 |



й важым на звычайнай, але дакладнай (точнай) вазе. Пасьля множым атрыманую вагу: пры адналітровай пасудзіне на 100, пры дзесяцілітровай — на 10, пры дваццаціпяцілітровай — на 4 (каб атрымаць вагу гэктолітра ці 100 літраў). Лічба, якая з такога памнажаньня атрымаецца, дасьць нам гэктолітравую (абыймовую) вагу насеньня (у кілёграмах — *А. К.*).

Абыймовая вага залежа ад формы, вялічыні й сухасьці насеньня. Напр. сьвежа сабранае насеньне мае далёка меншую гэктолітравую вагу, чым насеньне старое, бо ў сьвежым насеньні ёсьць больш вогкасьці.

На збажовых біржах прынята, што адзін гэктолітр галоўных гаспадарскіх расьлінаў павінен важыць у клгр.:

Пшаніца 78—83, жыта 70—80, ячмень 54—75, авёс 40—60, кукуруза 70—80, проса 66—70, грачыха 60—65, гарох 82—85, фасоля 80—85, чырвоная канюшына 83—85, белая канюшына 83 з палавінай да 85, люцэрна 76—79, конскі зуб 76—80, буракі 22—28, капуста 64—70, рэпа 63—68, мак 58—64, морхва 90, цыкорыя 36—42.

Гэктолітравая вага збожа ёсьць зьменная, для кожнага году іншая. Гэта залежа ад пагоды й іншых чыньнікаў. Таму збажовыя біржы штогод падаюць найніжэйшую гэктолітравую вагу для таго ці іншага роду збожа й такая вага абавязвае пры прадажы й пры прыйманьні збожа.

Калі-ж вага будзе меншая ад найніжэйшай граніцы, напрыклад 74 клгр. у пшаніцы (мае быць 78), дык гэта доказ, што насеньне ня ёсьць адборнае. Таму добра было-б такое зерне, якое празначана на сяўбу, яшчэ раз перамлынкаваць, або перапусьціць цераз зьмеявік, або йшчэ лепш—цераз трыер. Абсолютная вага (сапраўдная)— гэта вага аднэй тысячы невыбіраных зярнят (у грамах). Чым цяжэйшае насеньне, тым яно лепшае. Розьніца ў вазе можа быць і ў таго самага сорту. Гэта залежа ад спосабу гадаваньня й ад клімату. Прынята, што вага аднэй тысячы зярнят павінна важыць у грамах (1 кілё мае 1.000 грамаў):



дзень прарастаньня й колькасьць прарасшых зернятак ды ацэнка, ці гэтыя расткі былі здаровыя, ці хворыя.

У буракоў з аднаго клубочка можа прарасьці 3—5 расткоў, таму пры падрахоўваньні прарасшых зернятак не рахуем ліку расткоў, а толькі колькасьць клубочкаў.

Прарастаючае насеньне мусіць мець адпаведную вогкасьць і цяпліню. Таму якраз трэба неаднолькава доўга чакаць на прарастаньне рознага насеньня. Насеньне з цьвярдзейшай і грубшай скуркай прарастае па даўжэйшым часе, а. з тоненькаю скуркай і мякчэйшае — па часе карацейшым.

Энэргію прарастаньня звычайна азначаем:

*па 3 днях* у: жыта, пшаніцы, ячменю, канюшыны, гароху, лёну, маку, капусты, шпарагаў, сачыўкі;

*па 4 днях* у: аўса, бобу, бобіку, лубіну, грачыхі, кукурузы й сонешнікаў;

*па 5 днях* у: буракоў, сэрадэлі, цімафейкі;

*па 6 днях* у: морхвы й эспарзэты;

*па 7 днях* у: розных пашных расьлінаў.

Прынята, што проба на здатнасьць прарастаньня мае трываць:

*10 дзён* у: зернавінаў, канюшыны, лёну, канапель, лубіну, фасолі, гароху, бобу й бобіку.

*14 дзён* у: пашных і цукровых буракоў, морхвы, сэрадэлі, цімафейкі й райграсу, а

*21 дзень* у: іншых пашных расьлінаў.

Па заканчэньні пробы аблічаюць, колькі зернятак прарасло наагул, колькі было хворых або заражаных якою-небудзь хваробаю. Гэту колькасьць хворых зернятак адрахоўваюць ад ліку ўсіх прарасшых зернятак і атрыманая лічба дае працэнт здатнасьці й сілы прарастаньня. Напрыклад: для лепшага рэзультату ўзялі мы дзьве талеркі з аднолькавым насеньнем. Прарасшыя зернятки на абоіх талерках аблічаем разам і дзелім праз два. Скажам, на аднэй талерцы было прарасшых 95 зернятак збожа, на дру-

гой 90. Па зрахаваньні гэтага атрымаем 185. Гэту лічбу дзелім праз 2 (бо былі *дзьве* талеркі) і атрымоўваем $92^1/_2$, гэта знача, што такое насеньне мае $92^1/_2$ прац. здатнасьці прарастаньня, або што на 100 клг. высеенага насеньня павінна прарасьці $92^1/_2$ клг. зерня.

Калі рэзультаты паміж аднэй і другой талеркай вельмі значныя, тады пробу трэба йшчэ паўтарыць. Важна таксама ведаць, які працэнт хворых зернятак прарос, бо гэта дае нам абраз унутранай вартасьці насеньня, якой звычайным вокам пабачыць ня можна.

Найніжэйшым ступнём здатнасьці прарастаньня прызнаецца гэткі працэнт:

Пшаніца — 80, жыта — 80, ячмень — 85, авёс — 80, грачыха — 80, проса—76, гарох— 80, лубін — 70, боб — 95, бобік — 87, сэрадэля—65, канаплі—80, чырвоная канюшына—80, белая канюшына—75, цімафейка—80, кастрыца—82, райграс — 85, купчатка—65, морхва—55, капуста—70, рэпак—80, лён—80, буракі цукровыя — 45, буракі звычайныя — 75, кукуруза — 80, белая гарчыца — 80, агуркі — 45, гарбуз — 75, салата — 75, фасоля —75, рэдзька — 70, цыбуля — 45, памідоры — 65, шпінак — 50, пятрушка — 70, бручка — 65.

Сіла прарастаньня ў першую чаргу залежа ад даўнасьці насеньня. Бо чым насеньне старэйшае, тым меншы ў яго працэнт прарастаньня. Чым вышэйшы ад паказанага працэнт прарастаньня, тым насеньне лепшае й больш вартаснае.

Рэдка калі трапляецца, каб насеньне прарасло на поўных 100 працэнтаў. Здатнасьць прарастаньня хістаецца, нават у вялікіх граніцах, залежна ад вялічыні насеньня, стану ягонага здароўя, колькасьці вогкасьці ў ім; далей — залежа ад таго, якая была пагода падчас дасьпяваньня й зьбіраньня. Меншае й сушэйшае насеньне даўжэй перарымлівае здатнасьць прарастаньня, чым насеньне большае й вогкае (сачыстае). Асабліва малую здатнасьць прарастаньня выказваюць расьліны агародныя й таму з гэтым трэба заўсяды рахавацца пры куплі насеньня. Некаторае насеньне, напрыклад насеньне агуркоў, гарбузоў, мэлёнаў лепш прарастае па двулетнім адляжаньні, затое слабей прарастае насеньне аднагодняе, а чым старэйшае, тым больш затрачывае сваю здатнасьць прарастаньня.

Пробу на сілу й энэргію росту робім таксама, як пробу на здатнасьць і энэргію прарастаньня, толькі што на насеньне насыпаем пласт на груба патоўчанай цэгле да вышыні 1—2 см. Гэта проба дае гаспадару магчымасьць уявіць сабе сілу росту прарослых расьлінак на полі, пасьля высеву, калі расьлінкі гэтыя мусяць прамошчаваць сабе дарогу праз зацьвярдзеўшую зямлю да паверхні грунту. Гэта сіла й энэргія росту залежа таксама ад спажывы ў ральлі ў пачатку росту прарослых расьлінак, ад пагоды, розных хваробных зародкаў і г. д.

## 11. Вага.

Здаровае насеньне ацэньваецца таксама на падставе абыймовай вагі. Гэта вага служа мерваю вартасьці насеньня, для кожнага гатунку й сорту. Зважваньне дакладна азначанага абыйма насеньня мае вялікую практычную вартасьць пры ацэнцы насеньня на сяўбу, бо паказвае ягоную сьпеласьць, добры наліў, знача паказвае на ягоную нутраную вартасьць.

Насеньне што да вагі адзначаецца траякім спосабам: вагай абыймовай або гэктолітравай, вагай уласнай і ўрэшце — вагай абсолютнай. Падаю два спосабы абазначаньня вагі зерня, хоць для гаспадара даволі знаць толькі вагу абыймовую.

Абыймовая або гэктолітравая вага—гэта лічба, якая паказвае вагу насеньня ў дакладна азначанай адзінцы абыймовай, напр. вага аднаго літра насеньня, ці аднаго гэктолітра (100 літраў). Насеньне насыпаем у пасудзіну, якой абыймо адзін, дзесяць, ці дваццаць пяць літраў, зраўнаем роўна з берагамі

з тым аднак, што на мацнейшай глебе сеюцца каноплі гусьцей, а на слабейшай — радзей. Мяркуючы аб гусьціні засеву канапель, бярэцца так-жа пад увагу, ці гэта маюць быць каноплі на валакно, і тады трэба сеяць густа, калі-ж гадуюцца каноплі на насеньне — дык тады сеюцца радзей. Да сяўбы канапель можна прыступіць толькі тады, калі ўжо не пагражае небясьпека позных прымаразкаў. А й аб тым трэба памятаць, што да пасееных канапель вялікімі аматарамі зьяўляюцца вераб'і, якія шукаюць ня толькі сьвежа пасееных канапляных зярнят, але нават дабіраюцца да іх і тады, калі яны ўжо абыйшлі. Таму пасееныя каноплі трэба ўсякімі спосабамі бараніць ад вераб'ёў.

А што з канаплямі пасеенымі?

Прадусім загадзя, зараз па адцьвіценьню, калі з цьвету пласконьняў высыплецца пылок і расьлінкі самыя пажоўкнуць, іх трэба зараз-жа павырываць, павязаць у пучкі й зараз-жа мачыць. Бывае гэта ў пачатку жніўня. Месяцам пазьней дасьпяваюць уласьцівыя каноплі на насеньне. Але калі з гэтых канапель мае быць тонкае валакно, дык такія каноплі трэба вырываць таксама не чакаючы поўнай сьпеласьці.

Вырваныя каноплі прасушваюць крыху ў малых пучкох, састаўленых у копках, малоцяць, абрэзываюць карэньне й мочаць. Каб каноплі добра й роўна мачыліся, трэба іх вязаць, падбіраючы цянейшыя з цянейшымі, грубшыя з грубшымі: першыя патрабуюць карацейшага часу да мачэньня, чым другія. Мачэньне такое трывае, залежна ад цяпліні, ад 16 да 24 дзён. Пасьля мачэньня каноплі росяцца, таксама як і лён. — Вышыню ўраджаю, як валакна так і сяменьня, прадбачыць трудна. Рахуюць, што валакна бывае: з пласконьняў — каля аднэй траціны й з уласьцівых канапель (мацеркаў) — дзьве траціны агульнага ўраджаю. — З туку (клустасьці) канаплянага вырабляецца алей, пасьля чаго астаецца йшчэ цэнная макуха. З 100 клг. канаплянага сяменьня выходзіць каля 22 клг. алею й 76 клг. макухі. *Г. Р—скі*

# Супроць гілёў

Аб гэтай справе „Самапомач" прыпамінае кожны год. Сёлета прыпамінаем справу гілёў яшчэ й таму, што на рынку зьявіўся новы хэмічны сродак барацьбы з гілямі, а фахова-земляробскія часапісы адклікаюцца аб ім нават з прызнаньнем. Але найперш — колькі слоў аб шкоднасьці гілёў наагул.

Ведама ўсім, як шкодна адбіваецца напасьць гілёў на малочнасьці скаціны. Шкодзяць гілі й на здароўе скаціны, нішчаць ейную скуру (дзюравяць) як тавар. Аб усім гэтым агульна ведама, як ведама й тое, што размнажаюцца гілі з яечак, зложаных у гарачыя дні на скуры скаціны, а пасьля тэй-жа ска-

vyrablajuć bolš-mienš 60 milj. hektolitraŭ*) vina, ci na adnaho čałavieka vypadaje 143 litry. Vinahradniki (h. zn. pole zasadžanaje vinahradam) ŭ Francyi zajmajuć prastor blizu 2 milj. ha (dakładna 1.9 milj. ha), ci 1/18 čaść ahulnaha abšaru zaniataha pad ziemlarobstva j dajuć pracu dla 1 milj. nasielnictva. Francuskija hadaŭcy vinahradu davoli dobra sarhanizavany ŭ svaje vytvorčyja kooperatyvy.

Z inšych haspadarskich raślin hadujuć u Francyi: avios (zajmaje 3.4 milj. ha), jačmień (786.000 ha), žyta (750.000 ha), hračycha (300.000 ha), kukuruzu (320.000 ha), pašny burak (900.000 ha), a z raślin pramysłovych—tabaku 114.866 ha), chmiel (4.262 ha), lon (46.000 ha) i kanopli (4.000 ha).

*) U hektolitry 100 litraŭ.

U žyviołahadoŭli francuskaja haspadarka pradstaŭlałasia ŭ 1931 h. hetak: 3.3 milj. štuk koniaŭ i asłoŭ, 16.2 milj. štuk usiakaj skaciny, 11 milj. štuk aviec, 6.6 milj. šviniej. U hod siarednie vyrablajuć u Francyi 140 milj. hektolitraŭ małaka. Bolš za Francyju ŭ całym śviecie vyrablajuć małaka tolki Złučanyja Štaty Paŭnočnaj Ameryki (500 milj. hl.) i Niamieččyna (260 milj. hl.); u Polščy ŭ 1934 h. vypradukavana było tolki niacełych 9 milj. hl. (8.9 milj. hl.).

Hetak pradstaŭlajecca naturalnaja padstava francuskaha ziemlarobstva.

Pryhledźmasia ciapier na chvilinu da štodziennych chłopataŭ francuskaha ziemlaroba ŭ źviazku z apošnim haspadarskim, a paśla j palityčnym kryzysam. Skazana było ŭžo, jak vialikuju rol u francuskim

цінай злізываных і гадаваных усярэдзіне праз цэлы год. Наверх даставаюцца напалавіну сьпелыя гілі з гузоў („вугроў“) на хрыбце й па бакох.

З усяго гэтага ясны й зразумелы вывад аб патрэбе: 1. штодзеннага чышчэньня поўсьці каровы вехцем саломы, каб гэтым не пазволіць зьлізываць гілёвыя яечкі й 2. выціскаць сьпелыя вугры, а выцісьненыя зародкі нішчыць.

Гэтак данядаўна прадстаўляўся спосаб барацьбы з гілямі. — Дзеля таго аднак, што выцісканьне вугроў вымагае пэўнага спрыту, а прытым і найспрытнейшы ўсёроўна дзюравіць скуру — спосаб гэты мае пэўныя нявыгоды. Вот-жа на рынку й зьявіўся новы сродак, які забівае зародак гіля ў вугры, зусім яго не адчыняючы (ня дзюравячы скуры). Сродак гэты называецца Адэрмоль (Adermol). Ёсьць гэта парашок.

5 грамаў такога парашка распускаюцца ў чвёртцы шклянкі вады й атрыманым растворам націраюцца чыста прад тым вымытыя тыя мясцы, дзе *назначаецца* вугор. Выразна кажу: „назначаецца.“ Гэта знача, што ня можна чакаць, аж пакуль вугор станецца ўжо вялікім і сьпелым да самалопаньня. Гэткіх вялікіх вугроў Адэрмолям ужо забіваць ня можна.

Для арыентацыі зазначыць трэба, што дзесяць пяціграмавых парашкоў каштуюць 2 зл., а аднаго парашка даволі для абслужэньня аднае каровы.

*З. З.*

## Трэба нішчыць майскіх жукоў-хрушчоў!

Здавалася-б такое малое стварэньне гэты майскі жук-хрушч, а якія з яго шкоды! Фаховая земляробская літаратура ведае прыклад, калі такія жукі за два гады патрапілі вынішчыць аж 600 га маладога лесу. Згэтуль ясны вывад, што з гэтымі шкоднікамі трэба змагацца, трэба іх нішчыць!

Аднэй з прычын, чаму чалавек наш мала зварочвае на гэту справу ўвагі, ёсьць нясьведамасьць спосабу жыцьця хрушча й самага шкоджаньня. Вотжа трэба ведаць, што галоўная шкода хрушча не ад яго самога, а ад тых рабачкоў, якія ў кожным пакаленьні выклюнуўшыся з яечак праз тры гады жывуць у зямлі й грызуць карэньчыкі ўсякіх расьлінак. На чацьвертым годзе з такога рабачка выклюваецца ўжо пачварка, а з яе дасьпелы хрушч. Хрушч такі, пэразімаваўшы так-жа ў зямлі, кладзе яйкі й кругаварот пачынаецца нанава.

Выходзе з гэтага, што калі не дапусьціць да складаньня яек хрушча ў зямлю, дык гэтым самым абаронімся ад дакучлівай напасьці **на тры гады**. І наадварот, калі прапусьціць пару складаньня яек, дык гэтым самым праз тры наступныя гады будуць рабакі, што выклюнуцца з гэтых яек, безміласэрна нішчыць поле й агароды, дзе яны пасяліліся. Гэткая пара складаньня яек сьпелымі хруш-

---

ziemlarobstvie jhraje hadoŭla pšanicy. Zrazumieła zhetul, što j dabrabyt haspadarak takich zaleža ad taho, jak i nakolki heta hadoŭla apłačvajecca.

Vot-ža pakul ahulny ŭradžaj pšanicy ŭ Francyi nie pieravyžšaŭ zapatrebavańnia ŭ kraju, datul było ŭsio ŭparadku. Kali adnak, havoračy jazykom štodziennym, Francyja *vylizałasia* z vajennych ranaŭ, dyk krajovaja pradukcyja pšanicy nie mahła ŭžo znajšci dla siabie miesca na krajovym rynku, a tymbolš hety rynak pačaŭ adharadžvacca ad pryvozu pšanicy z zahranicy. Z hetaje voś pryčyny ŭ 1925 h. ŭ Francyi cło (myta) na pryvoznuju pšanicu z 7 frankaŭ ad 100 klh było padvyžšana až na 80 frankaŭ. Heta cło, praŭda, ustrymała na čas pryvoz pšanicy zahraničnaj, ale jašče bolš uzachvociła krajovych vytvorcaŭ da dalšaj pradukcyi. Nastupiŭšyja paśla hetaha ŭ 1930 i 1931 h. nieŭradžai zavostranuju sytuacyju krychu ŭspakoili. Ale ŭ 1932 h. abjaŭlajecca ŭznoŭ pierabor pšanicy, jaki pačaŭ silna naciskać na rynki. Tut užo ŭmiašałasia ŭłada, vyznačajučy hetak zvanyja minimalnyja (najmienšyja) ceny: 110—115 frankaŭ za 100 klh. Zahad hety adnak astaŭsia zahadam na papiery, bo sialanie, jakija patrabavali hrošaŭ a nie mahli dačakacca kupca, addavali svoj tavar navat za pałavinu hetaj minimalnaj cany. Kab zahady ŭłady choć u prybliznaści datarnavać da žyćcia, było sarhanizavana adumysnaje biuro (Institut National de Blé), jakoje padniało hetyja minimalnyja ceny da 204 frankaŭ za 100 klh. Ale j hetaha było mała, bo adnačasna padyjmalisia

чамі называецца раеньнем хрушчоў. Здараецца гэта раеньне раз на некалькі год і аб гэтым дасьледчыя інстытуцыі паведамляюць у газэтах.

Як-жа тады гэтых хрушчоў нішчыць? Адзіным сапраўды памоцным спосабам ёсьць нішчэньне сьпелых хрушчоў падчас раеньня, пры каторым, як ужо было сказана, за раз абараняем поле (ці агарод) на тры гады. Значэньне гэтага станецца йшчэ выразьнейшым, калі прыймем пад увагу, што кожны хрушч зносіць у год больш-менш па 60 (шэсьцьдзесят) яек!

Зьбіраць сьпелых хрушчоў пры сонечнай пагодзе найлепш раніцай, да 10-ай гадзіны, а пры пахмурнай — праз цэлы дзень, страсаючы іх з дрэва на падасланыя ўнізе непадзюраўленыя посьцелкі. Сабраныя гэтак хрушчы найлепш заліць вараткам. Аб выкарыстаньні апараных хрушчоў часам можна пачуць раду: каб іх скармліваць сьвіням, курам ці рыбе. Незаўсяды гэта бывае шчасьлівая рада. Адна толькі рыба лёгка травіць хрушчы. Таму далёка бесьпячней забітых вараткам хрушчоў компаставаць, пераклaдаючы пласты хрушчоў вапнай і зямлёй.

*З. З.*



# Зьмена статуту „Сполэм"

Наглядная Рада Саюзу спаж. коопэратываў „Сполэм", на паседжаньні сваім дня 2 красавіка сёл., прыняла праект зьмены свайго статуту ў тым месцы, дзе гаворыцца аб спосабах выбараў дэлегатаў ад нізавых коопэратываў на агульны зьезд Саюзу. Дагэтуль такіх дэлегатаў выбірала й на свой кошт пасылала кожная коопэратыва. Зьмена прадбача, што такіх дэлегатаў маюць выбіраць не паасобныя коопэратывы, а акружныя зьезды гэтых коопэратываў. Праектадаўцы тлумачаць патрэбу гэткай зьмены тым, што малыя коопэратывы, асабліва дальшыя ад Варшавы, ня ў сілах высылаць свайго дэлегата на зьезд і такім чынам іхнія інтарэсы на такіх зьездах не бяруцца пад увагу. Інакш гэта мае быць, калі выбіраць і аплачываць дарогу дэлегатаў на агульны зьезд будуць зьезды акружныя. — Можа ў гэтым і ёсьць колькі праўды. Але на нашу думку даступнасьць агульных зьездаў узрасла-б яшчэ больш, калі-б самыя зьезды не адбываліся што-год у Варшаве, але па чарзе ўва ўсіх коопэратыўных асяродках.



ceny na vyraby pramysłovyja.

Chočačy dahnać hetu chvalu darahoŭli, mierkavali Francuzy jašče bolš padvyšyć uradžaj, kab mieć bolš što pradavać. I sapraŭdy, padvyšyli: u 1938 h. dahnali ŭradžaj da niabyvałaj dahetul ličby—100 milj. q! Ale što z hetaha vyjšła? Krajovy francuski rynak moža pryniać u siabie najbolš 74 milj. q, z jakich na prakarmleńnie ludziej idzie kala 60 milj. q, a rešta—14 milj. q—na damiešku da ŭsiakaj pašy žyviole.

A kudy padzieć reštu—26 milj. q?

Kala 3 milj. q pšanicy miarkujuć vykarystać na vyrab śpirtu, jaki prymušany buduć pramysłoŭcy damiešyvać da benzyny. Kala 1.5 (paŭtara) milj. q pšanicy ŭdałosia pamiaścić u Italii, jak zapłatu za sierku. A što rabić z reštaj? Voś chłopaty francuskaha ziemlaroba.

Nad sposabami vyrašeńnia hetych chłopataŭ dumaje francuski ŭrad, dumaje j francuskaje hramadzianstva. Mieraj chłopataŭ francuskaha ŭradu moža być chočby toje, što ŭ mižčasie—ad 10 lipnia 1933 h. da 24 śniežnia 1934 h.—było vydadziena až 300 (trysta!) dekretaŭ i dva asobnyja zakony vyklučna ŭ spravach ziemlarobskich. Usio heta adnak rabota papiarovaja. Tamu horkimi, ale tymbolš spraviadlivymi, zdajucca być słovy francuskaha ahrarnaha ekanamista Marcela Braibant'a, jaki skazaŭ, što papravy nia budzie datul, pakul „haradzkoje nasielnictva Francyi nie pierastanie dašukivacca ŭ francuskim sielaninie svajho paddanaha, a promysieł nie pierastanie bačyć u im svajho słuhi". (P-le „Życie Roln.").

Ci-ž hetyja słovy adnosiacca tolki da Francyi?

*X. У.*

## „Земляробская самапомач"

Ад 11 красавіка сёл. увайшоў у сілу польскі закон аб „земляробскай самапомачы" („Samopomoc rolna" Dz.U.R.P. № 32, poz. 209, 11.IV.39). Закон гэты, як і папярэдні закон аб даставах („o świadczeniach rzeczowych"), мае за заданьне падтрымаць земляробскія гаспадаркі, або прыгатаваць іх на выпадак, калі-б ім гразіў нейкі недастатак з прычыны ваеннага палажэньня. Выразна кажучы, закон гэты прадбачыць:

1. узаемную помач у форме рабочых рук;

2. пазычаньне цяглай сілы (коняў), вупражы (і вазоў), земляробскай снасьці й машынаў;

3. супольнае абрабляньне зямлі, дагляд і забесьпячэньне ўраджаяў.

Акрамя гэтага самапомаччу можа быць абняты матар'ял сяўбовы (сяўбовае насеньне) і паша.

Паводле закону й права самапомач гэткая не павінна быць дармовай: хто карыстае з нечыяй помачы, павінен за гэту помач заплаціць — грашмі, працай ці самымі прадуктамі земляробства. Але гэты самы закон прадбача, што калі нехта с а п р а ў д ы ня можа такой помачы адплаціць, дык тады абавязак помачы такой раскладаецца на цэлую вёску. Урэшце, важным ёсьць пры ўсім гэтым, хто такой самапомаччу мае кіраваць. Вот-жа закон прадбача на гэта так званага „вейскага пшодовніка", якога назначае адміністрацыя, ці йнакш кажучы — паветавы стараста. Натуральна, што ад асобы такога „пшодовніка" шмат залежа й таму трэба старацца высуваць на гэта становішча чалавека разумнага. Магчыма гэта там, дзе асобу „пшодовніка" выбірае й прадстаўляе старасьце да зацьверджаньня мясцовая фахова-земляробская арганізацыя („кулко рольнічэ") ці нейкая коопэратыва.

## Успамогі сем'ям пакліканых у войска

Ад 1 красавіка сёл. увайшоў у сілу закон аб успамогах сем'ям пакліканых у войска (Dz. U. № 29, poz. 196, 1939). Паводле гэтага закону права да ўспамогі належыцца сем'ям жаўнераў, якія адбываюць:

1. чынную вайсковую службу — ў рэзэрве, „паспалітым рушэньні", ці ў памоцніцкай вайсковай службе на дадатковых цьвічэньнях;

2. аснаўную ваенную службу, як ахвотнікі, у часе мабілізацыі, ці вайны, ці ўрэшце ў выпадку патрэбы абароны краю, сьцьверджанай пастановай Рады Міністраў;

3. аснаўную ваенную службу падчас мабілізацыі ці вайны, калі зьяўляюцца адзінымі карміцелямі сям'і.

Сям'ёй жаўнера, якая мае права да атрымоўваньня ўспамогі, лічацца: жонка, дзеці шлюбныя й няшлюбныя, пасынкі й пачарыцы, бацькі, браты-сёстры й дзяды. Права да атрымоўваньня ўспамогаў маюць аднак толькі тыя з названых, хто сапраўды быў на ўтрыманьні пакліканага ў войска. Пры гэтым, калі мова аб дзяцёх, пасынках і братохсёстрах, дык яны маюць права да ўспамогі толькі датуль, пакуль ім ня міне 18 гадоў.

Правы на такія ўспамогі пацьвярджаюць воласьці, куды трэба кіраваць і просьбы ў гэтай справе. Ведаць пры гэтым трэба, што калі з аднэй сям'і пайшлі ў войска адначасна не адзін чалавек, а два-тры (напр. бацька з сынамі), дык успамогі прызнаюцца толькі за аднаго.

Урэшце што да вышыні самай успамогі. Вот-жа, такая ўспамога аблічана на 60 грашоў у дзень для сям'і аднаасабовай, на 70 гр. — для двуасабовай, на 80 гр. — для трыасабовай і большай.

У тым-жа зборніку законаў (poz. 197) знаходзіцца йшчэ іншы цікавы закон аб высяленьні інстытуцыяў і насельніцтва з „загрожаных абшараў Дзяржавы". Выселена павінна быць (пры наказе) маемасьць грамадзкая й прыватная. На высяленьне казна павінна даць спосабы транспарту. Маемасьць нявывезеная й незабясьпечаная празначаецца на зьнішчэньне органамі ўлады й за гэта ўлада мае плаціць. Калі хто аднак не пасьпее свае маемасьці вывезьці па сваей віне, дык той траціць права да атрыманьня вынагараджэньня.

„Самапомач" выходзіць раз на месяц

ПАДПІСКА на „Самапомач": на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — кожнага нумару на цэлы год — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым перказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1. Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Redaktor K. CZERTOWICZ
Рэдактар К. ЧЭРТОВІЧ

Wydawca: „BIEŁPRES"
Выдавец: „БЕЛПРЭС"

Białoruska Drukarnia im. Fr. Skaryny w Wilnie: Zawalna 1.
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.